# Савецкая трагікамэдыя

Заглянуўшы ў пасланьне сакратара ЦК КПСС Л. Ільічова («Магутны фактар збудаваньня камунізму» — «Коммунист», № 1, 1962), зразу напамінаецца асьветчаньне Хрушчова: «калі хто хоча знаць, што такое камунізм, — гаварыў ён на ХХІІ зьезьдзе КПСС, — мусіць азнаёміцца з новай Праграмай. Праграма ўвасабляе камунізм».

З пасланьня Ільічова таксама вынікае, што да гэтага папяровага савецкага камунізму нестае... рэчаіснасьці. Звычайнай рэчаіснасьці ці найменшай жыцьцёвай падкладкі. Праўда, хоць зь вялікімі агаворкамі, Ільічоў больш-менш аптымісты што да збудаваньня так званай «матарыяльна-тэхнічнай» базы камунізму. Хоць за цану фізычнае зьнямогі, гэтая база можа быць дасягнутая. А што далей? Ці аўтаматычна наступае камунізм ружовага ўяўленьня? «Камунізм, — цьвердзіць Ільічоў, — гэта ня ружовыя ўяўленьні; гэта — праца ў патройным разьмеры, пры гэтым праца з абмежаванымі «патрэбнасьцямі» ці, як удачна заўважыў дарагі Хрушчоў, — з «разумнай узнагародай». Значыцца, і пры камунізьме 1980 году зноў-жа прыдзецца працаваць як вол, а спажываць тое, што з добрае ласкі падкіне гаспадар. Ільічоў таму й заклікае прапагандыстых ня цешыць загадзя падсавецкага нявольніка ружовымі камуністычнымі ўяўленьнямі, а ўбіваць яму, што «камунізм і праца — неразлучныя дружакі».

У сувязі з гэтым узьнікае пытаньне: ці мэтазгодна сьпяшаць працаваць, каб толькі працаваць і працаваць патройна? Працы ўсёй не пераробіш, а жыцьцё ўсё-такі мае нейкую вартасьць. Ці аплачваецца надрываць гэтае жыцьцё ў імя нерэальнасьці?

Дасюль больш-менш уважалася, што будаваньнем «матарыяльна-тэхнічнае» базы аўтаматычна складаецца й «камуністычнае» грамадзтва. Пайменна, «марксізм-ленінізм» цьвердзіў, што гэта «быцьцё» родзіць «сьведамасьць» ці «сацыялістычны лад» спрычыняецца да фармаваньня новага чалавека з «сацыялістычнымі» ці «камуністычнымі» навыкамі. Згодна Ільічова, хоць ад даўжэйшага часу й заняты ў «сацыялістычнай» працы, падсавецкі чалавек усьцяж застаецца звычайным чалавекам, а не «сацыялістычным робатам». Таму ён высоўвае зусім адваротную тэзу пра тое, што будучыня камунізму належыць прапагандыстым. Гэта значыць, што прапагандыстыя павінны адыйграць галоўную ролю ў збудаваньні так званага савецкага камунізму й камуністычнага грамадзтва. Заданьнем прапагандыстых — узмоцніць «камуністычнае выхаваньне», суправодзячы падсавецкага чалавека гэтым выхаваньнем ад першае школьнае лаўкі да надмагільнае прамовы. Вось тут, думае Ільічоў, і патрэбна шмат прапагандыстых. Яны павінны ў школах замясьціць вучыцялёў, у інстытутах і ўнівэрсытэтах — прафэсараў, а ў штодзённым жыцьці — мазоліць мазгі рознай «хрушчовінай» пры кажнай нагодзе й у кажную прынагодную часіну. Да гэтае нудоты, апрача арміі вышкаленых партыйных дармаедаў павінны прымкнуць поўнасьцяй радыё, кіно, «мастацкая» літаратура, публіцыстыка й т. п.

Магчыма «быцьцё» ці жыцьцёвы стан і мае ўплыў на фармаваньне сьведамасьці й пагляддаў. Сьведамасьць, якая фармуецца ў гісторыі, таксама мае ўплыў на ўдасканаленьне жыцьцёвага быту. Але тут патрэбная гармонія, а не крайнасьці, тым больш крайнасьці хваравлівыя.

Ільічоў алярмуе, што «камуністычнае выхаваньне» патрэбнае ня толькі для стварэньня новага савецкага чалавека, але й для змаганьня з «буржуазнымі» й «чужымі» ўплывамі. Да «буржуазных» ці «адсталых» уплываў належаць масавыя праявы «ўласьніцкай нажывы», іншага пагляду на жыцьцё й на сутнасьць савецкага сацыялізму, абыякавасьці, апалітычнасьці, нацыяналізму й інш. Да «чужых» уплываў належаць — захапленьне ўсім тым, што тым ці іншым шляхам трапляе з Захаду: радыёперадачамі, музыкай, мастацкай літаратурай і навет трап'ем, якое набываецца ў турыстых. У сувязі з гэтым ён навет прызнаўся, што сяньняшнія «камуністычныя парасткі» — брыгады камуністычнай працы, так званыя дабравольныя брыгады міліцыі («дружыны») — зьяўляюцца ў запраўднасьці толькі «парадднай шуміхай», «фармалізмам» і «паперчынай».

Як далёка, такім чынам, да камунізму. А 1980 год ужо на парозе.

Ведама, Ільічоў закранае таксама «культ» Сталіна. У гэтай сувязі ён называе апошняга навет прымітывам і невукам. Аднак што-ж прапануе Ільічоў узамен?

У першую чаргу сталінскі культ ён імкнецца падмяніць «аўтарытэтам» партыі й «заслужаных» партыйных кіраўнікоў. Каб падмацаваць у дадзеным выпадку «аўтарытэт» Хрушчова, ён спасылаецца навет на асьветчаньні «бесьсмяротнага» Леніна. Гэты «аўтарытэт» павінен заставацца сьвятасьцяй.

Далей, ні ў якім выпадку не павінна крытыкавацца савецкая сыстэма й савецкае безаконьне, зьяўляюцца яны сталінскага ці хрушчоўскага тыпу. Бачыце, хоць Сталін быў крыміналам, але ён шмат добрага зрабіў для «савецкага сацыялізму». Пры тым быццам-бы ня Сталін будаваў гэты «сацыялізм», але партыя.

Праўда, Ільічоў заклікае савецкіх эканамістых, праўнікаў, гісторыкаў «разьвіваць марксізм-ленінізм» на прыкладах жыцьця, як гэта быццам робіць Хрушчоў. Аднак яны ня маюць права сумлявацца ў догмах, ня маюць права крытыкаваць, тым больш ня маюць права заўважаць усе недарэчнасьці савецкага сацыялізму. Як раней аўтарытэтам для іх быў Сталін, цяпер-жа такім аўтарытэтам павінны быць Ленін і Хрушчоў. Бягучыя гады Ільічоў аб'явіў навет «гадамі Леніна». У сувязі з гэтым ён заклікаў савецкіх гісторыкаў і пісьменьнікаў «стварыць бесьсмяротны вобраз Леніна» ў гістарычнай і мастацкай літаратуры. Што-ж, як раней з кажнае страніцы выглядаў «геніяльны» Сталін, цяпер будзе выглядаць падобны яму Ленін.

Цяжка ўсе-такі разлучыцца з гэтымі ідаламі: царамі, сталінамі й ленінамі. Гісторыя, традыцыя й каменнавечны прымітывізм!

Нарэшце закранём яшчэ адзін акт гэтае савецкае трагікамэдыі.

Як ведама, у вапошніх гадох жыцьця Сталіна ў СССР панавала манія ўсе культурныя й тэхнічныя дасягненьні людзтва прыпісваць дасягненьням аднаго расейскага народу. Якія-б ня былі з гэтых дасягненьняў — усё належыць «расейскаму генію». Так робіць цяпер і Ільічоў. «Савецкі Саюз, — зазначае ён, — цэнтр сьветавай культуры, адгэтуль пранікае сьвятло самай перадавой, самай прагрэсыўнай ідэялёгіі». Гэта адносіцца таксама й да тэхнікі й да культуры наагул ды, што разумеецца адначасна — не «савецкая» культура як такая, але пайменна расейская.

Нам думаецца, што й чэсныя Расейцы ня могуць згадзіцца з гэтай сваей «гістарычнай пакліканасьцяй», каб ня стацца блазнамі. Ільічоў аднак падымае ўсё гэта да гонару, каб прыклікаць унутры да «патрыятызму», а навонкі паказаць «чаго мы вартыя».

І вось з гэтага «сьветавага культурнага цэнтру» высьлізнула Альбанія. Ільічоў пеніцца: гэта — зрада «пралетарыям», зрада «камуністычнай справе», «раскольніцтва», «антыленінізм», «контррэвалюцыя» й «нацыяналізм». Як прыкра, што падобныя ільічовы не заўважаюць сваіх брудных душонак. Як, напрыклад, можна сумясьціць падобныя нападкі на Альбанію з наступным асьветчаньнем Ільічова: «Мы павінны значна ўзмоцніць патрыятычнае выхаваньне савецкіх людзей, выпрацоўваць у работнікаў, асабліва ў моладзі, высокую нацыянальную гордасьць, пачуцьцё годнасьці грамадзяніна вялікай і магутнай Савецкай краіны...» Мабыць Альбанія не зьяўляецца краінай, а Альбанцы — народам!

А колькі падобных Альбаніяў знаходзяцца ў капцюрох Масквы й пра выкараненьне «нацыяналізму» якіх успомніў у сваім пасланьні сакратар ЦК КПСС Л. Ільічоў?!

**П. Залужны**

**АБАВЯЗКАМ КАЖНАГА БЕЛАРУСА ЁСЬЦЬ ЧЫТАЦЬ, ПАШЫРАЦЬ І ПАДТРЫМЛІВАЦЬ «БАЦЬКАЎШЧЫНУ».**

# „Паглядзі сава, якая сама“

Ні да каго іншага так добра ня прыстаюць гэтыя дасьціпныя словы беларускай народнай прыказкі, як да ведамага партыйнага палітрука ў беларускай літаратуры паэты Пятруся Броўкі. Ад чатырнаццацёх год нязьменны старшыня Саюзу пісьменьнікаў БССР Пятрусь Броўка выступіў з рэвэляцыйным дакладам на тэму «XXII зьезд КПСС і задачы беларускай савецкай літаратуры» на 4-ым пленуме праўленьня Саюзу пісьменьнікаў БССР 30 студзеня сёлета. Быў гэта даклад рэвэляцыйны не таму, што ў ім быў войстра асуджаны культ асобы Сталіна й плакучыя вынікі гэтага культу ў беларускай літаратуры нядаўнага мінулага, — гэтае асуджэньне культу Сталіна зьяўляецца сяньня ў цэлым Савецкім Саюзе штодзённым зьявішчам — але таму, што гэтае асуджэньне культу Сталіна было партыяй даручана зрабіць не каму-небудзь іншаму, але якраз Броўку.

Вось што гаварыў у сваім дакладзе Пятрусь Броўка:

«Культ Сталіна тармазіў, скоўваў, абмяжоўваў думку мастака, і, вядомая рэч, зьбядняў творы мастацтва. Агульнавядомы і тыя вялікія страты, якія панесьлі ад культу савецкая літаратура і мастацтва. Нямала страціла і наша беларуская літаратура. У часе ўздыму беларускай мастацкай літаратуры, у часе яе надзвычайнага росту, культ асобы суровымі і жорсткімі рукамі абламаў і зьнявечыў галіны яе цьвітучага дрэва і многім актыўным працаўнікам літаратуры і мастацтва давялося нізавошта адпакутваць у жахлівых умовах многія гады, а шмат каму разлучыцца і з жыцьцём».

Як-жа цынічна і гідасна гэта гучыць з вуснаў пісьменьніка, які на працягу сваёй літаратурнай дзейнасьці ўсхваляў Сталіна, ягоны рэжым і жорсткай крытыкай ды шальмаваньнем сваіх калегаў моцна спрычыніўся ў той час да масавых арыштаў.

Пятрусь Броўка таксама быў актыўным працаўнікам літаратуры. Аднак ён не пакутваў у жахлівых умовах, а наадварот, прабіраўся на вяршыні алімпу, будуючы сабе кар'еру на няшчасьці сваіх сяброў. Кажны з старэйшых пісьменьнікаў памятае той час, калі на агульным сходзе Пятрусь Броўка і ягоны памагаты ў бруднай справе Алесь Кучар ганьбілі і зьневажалі арыштаваных пісьменьнікаў, абзываючы іх «ворагамі народу». Мала таго, іхную творчасьць яны ацэньвалі як найгорш. Напрыклад, вершы арыгінальнага паэты Уладзімера Хадыкі гэтыя пракуроры ад літаратуры называлі бяздарнымі, фармалістычнымі, шкоднымі. Яны не пашкадавалі і свайго аднадумца, сталінскага трубадура Андрэя Александровіча. Выкарыстаўшы паклёпніцкі ліст на апошняга, Броўка і Кучар ударылі па ахілесавай пяце ахвяры. Андрэй Александровіч пасьля публічнага зганьбаваньня быў арыштаваны і сасланы на Поўнач. Ягонае высокае становішча заняў Броўка..

Цяпер Александровіч вярнуўся з далёкай ссылкі. А ці мог ён спакойна слухаць даклад свайго агрэсыўнага спадкаемніка? Ці-ж ня выклікаў ён у душы абурэньня ў тых, хто запраўды пацярпеў і пражыў концлягеры і даўгія гады выгнаньня?

Хіба ня зьдзекам гучыць, заява Броўкі: «Мы пражылі цяжкі час. Старэйшыя таварышы памятаюць, што без усхваленьня культу асобы многім творам цяжка было знайсьці дарогу. Занядбана была лірыка».

А хто спрычыніўся да таго, што лірыка была занядбаная? Сам-жа Броўка выслаўіўся тым, што сьпяваў дыфірамбы Сталіну. Ужо на пачатку сваёй творчасьці ён прыдушыў сябе, як лірыка, і стаўся палітруком беларускае літаратуры. І ў гэтай ролі ён быў бескампрамісным. Навет рукапісы лепшых сяброў, якія праходзілі праз ягоныя рукі, ён, калі там ня было нічога аб Сталіне, бракаваў, не дапушчаў да друку.

«Чыстая лірыка неактуальная», — заяўляў Броўка сваім прыяцелям, даючы зразумець, што патрэбныя толькі рыторыка і оды ў гонар Сталіна. А цяпер на пленуме ён апраўдваецца: «Усе мы аддалі пэўную даніну гэтаму».

Няпраўда, партыйны пан Броўка! Ня ўсе! Возьмем для прыкладу сталінскія ахвяры. Сярод іх, за выняткам Александровіча і яшчэ некалькіх, шмат хто аніякай даніны не даваў. Дубоўка, Пушча, Скрыган, а таксама шэраг тых, што бязьвінна загінулі — Хадыка, Кляшторны, Макароў і іншыя — ніколі ня былі сталінскімі джамбуламі.

Дарэмна, дзеля свайго алібі, спасылаецца Броўка на старэйшых пісьменьнікаў, гаворачы: «Навет такія мудрыя і непахісныя людзі, як нашы настаўнікі Янка Купала і Якуб Колас, шмат у сваіх творах ушаноўвалі культ асобы».

А хіба ня ведае Броўка, якую трагедыю перажывалі гэтыя пісьменьнікі ў часе гвалтоўнага пераломy іхных творчых ідэялягічных установак? Хіба Броўка ня ведае, што Янка Купала ў сувязі з гэтым ішоў на скрайнюю меру — самагубства?

Кажны памятае той час, калі народны паэта Янка Купала спосабам харакіры хацеў скончыць сваё жыцьцё, і толькі пасьля адратаваньня, фізычна заламаны, пайшоў на самагубства творчае.

(Заканчэньне на 3-яй бачыне)

# У вабароне нацыянальнай спадчыны

(Заканчэньне зь 1-ай бач.)

эстэтычнага ўзроўню «маладнякоўскай» і «ўзвышэнскай» літаратуры тых гадоў, які быў значна ніжэйшы — і ня мог ён быць інакшым — за сучасны ўзровень».

Прыведзены ў гэтым артыкуле матарыял зь літаратурнай дыскусіі, якая ў сучасны мамэнт жыва разьвіваецца ў беларускім пісьменьніцкім асяродзьдзі БССР, паказвае, што маем перад сабой цікавае й пацяшаючае зьявішча. Із самага гэтага асяродзьдзя, зь пісьменьніцкіх нізоў выходзяць галасы з патрабаваньнем вярнуць гісторыі беларускай літаратуры літаратурную спадчыну раней забароненых пісьменьнікаў і разам з гэтым праводзяцца штораз шырэйшыя канкрэтныя спробы вывучэньня гэтай спадчыны, як зьявы пазытыўнага характару. Намаганьні артадаксальна-партыйных пісьменьнікаў тыпу Броўкі й Крапівы заглушыць гэты жывы працэс разьбіваюцца аб цьвёрдыя пазыцыі перадусім літаратурнае моладзі, якая патрапіла вызваліцца з-пад ціску партыйных догмаў або й наагул ня была ў іхным палоне. Такім чынам акцыя ў вабароне беларускай нацыянальнай спадчыны ў галіне мастацкай літаратуры знаходзіцца сяньня ў поўным разгары.

**Ст. Крушыніч**

# Страляюць ракеты, а цьвякоў няма

Завяртанскі «Голас Радзімы» ды наагул бальшавіцкія публікацыі так на экспарт, як і для паняволеных народаў усьцяж трубяць аб эканамічных «дасягненьнях» Масквы, у тым ліку й на нашых землях за пасьляваенныя 18 гадоў «сацыялістычнага будаўніцтва». Праўду кажучы, калі «камуністычны рай» мае быць на падабенства першабытнага ці біблійнага, то ўжо даўно ў ім апынуліся паняволеныя народы, калі сталі поўгольмі зь недахопу вопраткі й абутку, жывуць у зямлянках і шалашох, як першабытныя людзі, жывяцца травой і ўсім, што ўдасца прыдбаць, ды абманываюцца маскоўскім босам у выглядзе бальшавіцкай вужакі.

Бальшавіцкае трубадурства аб «дабрабыце» насельніцтва БССР мае за сваю мэту трымаць у напружаньні насельніцтва на падабенства пагаворачнага заезджанага й галоднага каня прыманай ахапкі сена. Таму завяртанцы так чутка варушацца, калі газэта «Бацькаўшчына» раскрывае бальшавіцкую хлусьню фактамі з падсавецкага жыцьця.

Вось-жа і ў гэтым артыкуле я хачу сказаць крыху аб савецкім «дабрабыце» і «дасягненьнях» маскоўскага кіраўніцтва ў БССР не ад сябе, але вуснамі савецкіх дэпутатаў у вярхоўны Савет БССР, на аснове стэнаграфічных запісаў, апублікаваных у кніжцы: «Вторая сессия Верховного Совета БССР» пятого созыва».

У кніжцы пададзеныя выступы 27 дэпутатаў ды цівуноў з Мазуравам на чале. Ведама, стэнаграфічныя запісы былі сцэнзураваныя перад тым, як яны паявіліся ў названай кніжцы, тым ня менш у прамовах многіх дэпутатаў вылазіць на верх тое батрацкае становішча, якое ўсьцяж пануе ў паасобных раёнах, местах, мястэчках БССР, аб якім ня любяць гаварыць бальшавікі на старонках сваёй прэсы.

Як пры Сталіне, гэтак і цяпер, кажны дэпутат перш чымся стане гаварыць аб скрайных патрэбах свайго раёну ці гораду — мусіць адбіць паклоны партыйнаму ідалу ды галоўнаму цівуну-Хрушчову. А ўжо выказаўшы трафарэтную тыраду ў чэсьць прыгоннай сыстэмы, баязьліва просіць маскоўскіх цівуноў аблегчыць ярмо народу...

Але хай гавораць самыя дэпутаты. **П. Лявіцкі** — дэпутат Магілеўскай акругі:

«Прашу сэсію зьвярнуць увагу Савету народнай гаспадаркі і Дзяржпляну рэспублікі на неабходнасьць арганізацыі фабрыкі дроту, цьвякоў, сеткі, скрайна патрэбных для сельскагаспадарчых патрэбаў».

«Навукова-дасьледчы інстытут мэханізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі БССР вынайшоў і выканаў бор КСК-25. Паводля воднікаў спэцыялістых, гэты бор высокай якасьці, эканомны, просты, але нажаль такіх бораў маецца толькі 4 на ўсю рэспубліку. У калгасах і саўгасах нашай акругі больш за 40 прац. фармаў не забясьпечаныя звычайным водадоступам, а ў вёсках на 80 хат часта існуе толькі адзін калодзезь, але выкапаць новыя калодзезі мы ня маем чым».

«Няма й электрычных матораў. У гэтым годзе атрымана на ўсю акругу толькі 50 матораў, што можа забясьпечыць патрэбы 3-4 калгасаў».

«Магілеўскі хлебазавод № 2 знаходзіцца ў аварным стане. Калі ня будзе хутка збудаваны новы, то горад можа апынуцца бяз хлеба».

**В. Міцкевіч,** Засульская выбарная акруга, Менскай вобл.

«У местах й раённых цэнтрах вельмі мала рамонтных майстэрняў, хімічнай чысткі вопраткі, направы гадзіньнікаў і прадметаў хатняга карыстаньня. Многія майстэрні дрэнна забясьпечаны неабходнымі прыладамі, інструмантамі дзеля выкананьня рамонтных работаў».

«У рэспубліцы да гэтага часу не зарганізована вытворчасьці самых неабходных прыладаў для направы прадметаў штодзённага карыстаньня. Як ні сорамна, што да гэтага часу немагчыма дастаць цырульных прыладаў, паяльнікаў, абцугоў, або запасных частак да гадзіньнікаў, радыя і тэлевізіі».

«У нашай (Менскай) вобласьці вельмі дрэнна стаіць справа з бойнямі й мяснымі фабрыкамі ды прыймовымі пунктамі жывёлы й птушкі. Калгасы й саўгасы Копыльскага, Любанскага, Слуцкага, Старадароскага раёнаў прымушаны прыганяць жывёлу на менскую бойню за 150-200 км. Толькі ад перагону жывёлы страты ў жывой вазе жывёлы дасягнулі ў 1958 г. 307 тонаў, у 1959 г. — каля 100 тонаў. Дзяржава панясла страты на 2 міль. рубл».

«Няважна ў нас із школьнымі будынкамі. За апошнія тры гады збудована ўва ўсёй акрузе 29 школьных будынкаў зь дзяржаўных сяродкаў. Людзі самі ў тым самым часе із сваіх сяродкаў збудавалі 342 школьных будынкаў. Міма ўсяго гэтага, адчуваецца ўсьцяж патрэба новых школьных будынкаў. Цяпер у Менскай вобл. многія школьныя будынкі ніжэй самых прымітыўных. 108 школаў памешчаны ў аварных нанятых памешканьнях, або у звычайных вясковых хатах супроць усякіх школьных патрабаваньняў, а навучаньне праводзіцца ў дзьве — тры зьмены. У падобных старых поўразбураных памешканьнях памешчаны ў бальшыні дзіцячыя садкі і ясьлі».

«Блага прадстаўляецца справа із шпітальным і паліклінным забясьпечаньнем. Памяшканьня раённых больніцаў у Клецку, Смалевічах, Халапенічах, Крупках і іншых раённых цэнтрах не адпавядаюць элемэнтарным вымогам мэдыцынска-прафіляктычнага забясьпячэньня. Няма паліклінікаў у Любані, Беразіно, у Старых Дарогах.»

**В. Мацюшка** горад Менск.

«Зь недахопу будаўляных матарыялаў і грошай, многія аб'екты будуюцца вельмі доўга. Так атэлье модаў у Магілеве пры намечанай расцэнцы 2.7 міль. руб. будуецца 5 гадоў, камбінат бытавога абслужываньня ў Менску пры Нагорным завулку будуецца 3 гады, дом адпачынку прамысловай каапэрацыі ў Жданавічах будуецца ўжо 5 гадоў».

**В. Труноў,** Віцебская вобл.

«Апрача паважных недастаткаў, каторыя маюцца ў дзейнасьці будаўляных арганізацыяў, вялікім тормазам работы зьяўляецца недахоп цэмэнту й сантэхнічных матарыялаў. У гэтым годзе толькі зь недахопу вадаправодных матарыялаў спынена будаўніцтва 9 тыс. кв. мэтраў жылой прасторы».

«За апошні час значна разраслося насельніцтва гораду Воршы, асабліва з расшырэньнем лёнакамбінату, заводу машынаў да шыцьця і інш. прадпрыемстваў. Але мэдыцынская сетка гораду рэзка адстае ад патрэбаў насельніцтва. Існуючая гарадзкая паліклініка памешчана ў дзеравянным бараку, не адпавядаючым мінімальным вымаганьням мэдыцыны. Да гэтага трэба дадаць, што паліклініка абслугоўвае ня толькі насельніцтва Воршы, але й Аршанскага раёну. Тым ня менш Дзяржплян і Міністэрства аховы здароўя БССР не прадугледжвае выдзяленьня грашовых сумаў на пабудову паліклінікі ў Воршы.

У 1959 г. у вобласьці мэтадам народнай ініцыятывы праводзілася будаўніцтва 130 школьных будынкаў, а дзяржава мала клапоціцца пра гэта».

# Сталінізм 30-х гадоў у Беларусі

**(Працяг з папярэдніх нумароў)**

У 1933 годзе былі ізноў праведзеныя арышты беларускае нацыянальнае інтэлігенцыі. У бальшыні выпадкаў былі арыштаваныя маладыя паэты й пісьменьнікі. Іх, відаць, разглядалі як рэцыдыў пасьля масавых арыштаў 30-га году. Гэтая пісьменьніцкая моладзь падавала надзеі й гарэла жаданьнем служыць сваіму народу. Другую групу арыштаваных складалі ведамыя беларускія дзеячы, між імі былыя дэпутаты польскага сойму ад беларускага жыхарства. Блізу ўсе яны ў Заходняй Беларусі належылі да арганізацыі «Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады». Фактычна яны былі кіраўнікамі гэтае статысячнае арганізацыі. Гэтыя паслы-Беларусы былі пазбаўленыя польскай уладай пасольскае недатыкальнасьці й арыштаваныя ў 1926 годзе. У 1927 годзе яны былі засуджаныя польскім судом на розныя тэрміны зьняволеньня. Пасьля польскі ўрад згадзіўся перадаць іх БССР. Беларуская савецкая ўлада сустракала іх з помпай, мітынгамі, аркестрамі, газэтнымі артыкуламі аб іхнай дзейнасьці. Бальшыня зь іх атрымала адказныя становішчы. Аднак, даверу да іх ня было. Яны ня былі самастойныя ў працы, бо звычайна іх прызначалі на заступнікаў: у Наркамасьветы, Дзяржаўную плянавую камісію, музэі, Акадэмію навук і гэтак далей.

Першыя часы мітынгаў і радасных надзеяў мінулі, пачалася суровая савецкая рэчаіснасьць, пра якую паслы й ня думалі. У іх ня было самага асноўнага — ніякае свабоды, не гаворачы ўжо пра цесныя кватэры, нястачу мэблі ды іншыя элемэнтарныя жыцьцёвыя патрэбы. Сваімі настроямі яны дзяліліся міжсобку ды ў васьцярожнай форме, выказвалі незадаваленьне сваім старым сябром, савецкім грамадзянам. Зразумела, гэткія выказваньні траплялі ў ГПУ ды фіксаваліся там. Трывожыла паслоў і яшчэ адна рэч. Найбольш уплывовы зь іх прафэсар Браніслаў Тарашкевіч, чамусьці ў Менск ня прыбыў, а пасьля пайшлі чуткі, што ён з Польшчы паехаў проста ў Маскву. Прафэсар Тарашкевіч быў засуджаны польскім судом на 13 гадоў турмы. Ён быў, між іншага, выдатным філялёгам. Калі ён сядзеў яшчэ ў польскай турме, Беларуская Акадэмія Навук выбрала яго за акадэміка. Дарма ў Менску чакалі на Тарашкевіча, яго туды ня пусьцілі.

У 1933 годзе ўсе былыя беларускія паслы польскага сойму ў Менску былі арыштаваныя, а зь імі — шмат іншых Беларусаў, якіх польскі суд асудзіў за прыналежнасьць да Беларускае Грамады, а пасьля выпусьціў у БССР. Гэтак, за адну ноч былі зьліквідаваныя лёгкаверныя энтузіястыя. Хадзілі пануры чуткі, што польская дэфэнзыва пазбавілася ад кіраўнікоў беларускіх народных масаў у Заходняй Беларусі, даючы ім магчымасьць выехаць у БССР, з тым, каб ГПУ зрабіла рэшту: фізычна вынішчыла іх.

Адзін зьняволены салавецкіх лягераў, украінец Підгайны, у сваіх успамінах «Недастраляныя» апісвае сустрэчу зь беларускімі пасламі й іншымі вязьнямі-Беларусамі. Яны расказвалі яму, што ў Менску ў ГПУ праседзелі ў падвалах каля году. Підгайны піша так: «Няшчасныя й жалюгодныя прыбылі на Салаўкі — гэтыя валадары, што сталіся найпаслухмянейшымі рабамі. З усіх іх найлепш выглядаў і быў найбадзёршым Рак-Міхайлоўскі. Я ня ведаю ні ягонае мінуўшчыны ні дзейнасьці ў Савецкай Беларусі. Магу толькі пацьвердзіць адно, што гэты чалавек сапраўды зусім шчыра і бяз жалю казаў: «Так нам і трэба» — да такое ступені ён асуджае наіўную сьлепату, што пайшлі на згубныя бальшавіцкія прынады.

У 1934 годзе па забойсьцьве Кірава была праведзеная новая чыстка ў партыі, што мела бязьвінны назоў: «праверка партыйных дакумэнтаў». Гэтая чыстка ня мела публічнага характару й адбывалася пад лёзунгам навесьці парадак у партыйнай гаспадарцы.

Вонкава правяраліся ўсе партыйныя фармуляры й запісы, вымагалася дакладнасьці ўва ўсіх дадзеных. Але ў сапраўднасьці гэта была самая жорсткая чыстка. Усіх камуністых, што мелі якія-небудзь спагнаньні або выключалі ў мінулым з партыі ці былі западозраныя ў нацыянальных ухілах, трацкізьме ды іншых партыяў — усіх такіх пазбаўлялі партыйных білетаў, а затым выкідалі з партыі. У некаторых установах выключэньні даходзілі да 50-ёх і больш працэнтаў. На апэляцыі рэакцыя была рэдка, усё рабілася завочна.

На «праверцы партыйных дакумэнтаў» зь Беларусі было адклікана колькі наркомаў, хоць з партыі яны выключаныя ня былі й ніякіх партыйных спагнаньняў ня мелі. Прычыны тут былі глыбейшыя.

Адкліканыя наркомы былі з нацыянальнасьці Беларусы. У сваім мінулым яны ня бралі актыўнага ўдзелу ў нацыянальнай працы, яны замянілі тых наркомаў, што былі зьнятыя й арыштаваныя ў 1930 г. Аднак, на сваіх становішчах яны не займаліся ачарненьнем усяго нацыянальнага беларускага, у шмат якіх выпадках маўкліва падтрымлівалі нацыянальную працу.

Былі іншыя прычыны. Гэтыя наркомы гуртаваліся вакол старшыні Саўнаркому Беларусі Галадзеда, што быў наважаным і моцным праціўнікам першага сакратара ЦК КПБ Гікалы, прысланага Крамлём па арыштах 30-га году.

Наркомы-Беларусы ўважалі Галадзеда за магчымага кандыдата на становішча першага сакратара. Галадзед быў добрым гаспадарнікам, а не нацыянальным дзеячом. Будучы старшынём Саўнаркому ад 1928-га году, ён добра вывучыў эканоміку краю, імкнуўся разьвіваць прамысловасьць, памагаў тэатрам і культурным установам. Гікала бачыў у васобе Галадзеда дужага і ўплывовага канкурэнта. Але ў часе партыйнае чысткі Гікалу ўдалося напалавіну ізаляваць Галадзеда. З Народнага камісарыяту асьветы быў адкліканы Платун і пасланы ў Сібір за начальніка палітычнага аддзелу саўгасу. Народны камісар земляробства Рачыцкі быў высланы ў Прыволскую вобласьць кіраваць транспартам. Старшыня Вышэйшага Савету Народнае Гаспадаркі (так звалася ўправа прамысловасьці да арганізацыі спэцыяльных наркаматаў) Грысевіч быў прызначаны за начальніка палітычнага аддзелу нейкае чыгункі ў Сібіры. Адкліканы народны камісар здароўя Цэнцыпар, прыяцель Галадзеда. Усё гэта былі старыя працаўнікі Беларусі. Наконадні яжоўшчыны ім была дадзеная пакуль што ганаровая ссылка.

**(Далей будзе)**

# Савецка-Амэрыканскае спаборніцтва ў асваеньні касмосу

20-га лютага амэрыканскі касманаўт, надпалкоўнік морскай пяхоты Джон Глен, зрабіў удалы трохразовы палёт навокал Зямлі на штучным спадарожніку, касьмічным караблі «Фрэндшып-7». Палёт адбыўся на вышыні ад 160 да 260 кілямэтраў над нашай плянэтай. Ад самага пачатку палёту пілёт сам кіраваў усім тэхнічным уладжаньнем свайго касьмічнага карабля. Палёт прадаўжаўся чатыры гадзіны 40 хвілін. Джон Глен апусьціўся з сваёй кабінай у Атлянтычным акіяне, дзе быў вылаўлены верталётамі амэрыканскай морскай флёты.

Усе амэрыканскія радыястанцыі перадавалі ўсе падрабязнасьці падрыхтоўкі й запуску на выпрабавальным палігоне на мысе Канавэраль у Флярыдзе, а таксама ўсе падрабязнасьці палёту. Жыхары ўсяго сьвету маглі сачыць за падрыхтоўкай і палётам амэрыканскага касманаўта праз радыё, чуць ягоны голас. Сотні замежных карэспандэнтаў назіралі запуск зь непасрэднай блізіні.

Дата запуску Джона Глена некалькі разоў адкладалася, але дзякуючы адсутнасьці ўсякай засакрэчанасьці ў нікога ў сьвеце ня можа быць найменшага сумлеву, што амэрыканскі касманаўт Джон Глен запраўды лётаў у касьмічнай прасторы, што гэта быў першы амэрыканскі запуск чалавека на арбіту вакол Зямлі і што гэты запуск прайшоў удала.

Інакш выглядае справа з палётамі савецкіх касманаўтаў.

Да гэтага часу савецкія органы паведамілі аб запуску двух савецкіх касманаўтаў — Юрыя Гагарына і Гэрмана Цітова. Аднак ніхто з пабочных людзей ня меў магчымасьці назіраць ні падрыхтоўкі, ні запуску савецкіх касманаўтаў. Толькі спэцыяльныя абсэрвацыйныя станцыі маглі пацьвердзіць палёты савецкіх касьмічных караблёў зь людзьмі на аснове падслухоўваньня савецкіх радыёвых хваляў, на якіх савецкія наземныя станцыі падтрымліваюць сувязь з запушчанымі касьмічнымі знарадамі.

Савецкая засакрэчанасьць выклікае абгрунтаваныя сумлевы адносна правільнасьці і дакладнасьці савецкіх інфармацыяў аб сваіх посьпехах у касьмічным прасторы. Сумлевы могуць быць розныя: ці савецкія касманаўты запраўды лёталі, а калі так, дык ці палёты Гагарына і Цітова былі першымі ўдальмі палётамі — ці не здараліся ў Савецкім Саюзе трагічныя няўдачы?

На гэтую тэму быў апублікаваны цікавы артыкул у заходня-нямецкім папулярным часапісе «Рэвю» з 26 лістапада мінулага году пад загалоўкам «Спаленыя ў касмосе». У ім падаюцца цікавыя падсумаваньні назіраньняў заходніх дасьледчых станцыяў за палётамі савецкіх касьмічных караблёў. Хоць гэтыя дадзеныя афіцыйна нікім не пацьверджаныя, яны, усё-ж, на нашу думку, будуць цікавымі для нашых чытачоў. Ніжэй падаем вытрымкі з гэтага артыкулу.

«15 запускаў спадарожнікаў Зямлі, між імі двух касьмічных караблёў, саветы падалі да гэтага часу афіцыйна да ведама. Але гэты іхны лік сьведама схвальшаваны. Падслуховыя цэнтралі вольнага сьвету могуць падаць зусім іншыя лічбы. Яны рэгістравалі ня толькі бліскучыя савецкія дасягненьні; ад іх не засталіся схаванымі і няўдачы. А няўдачаў цэлы шэраг.

Больш як два гады перад стартам Гагарына, у лютым 1959 годзе, у касьмічным караблі тыпу «Луньнік II» быў запушчаны з Капусьцінага Яру недалёка ад Чорнага мора ў сусьветную прастору савецкі пілёт-выпрабавальнік Сэрэнці Шыборын. На працягу 28 хвілін ён перадаваў на частаце 15765 радыёвыя сыгналы, а пасьля сьціх назаўсёды. Кружыцца яшчэ сяньня мёртвы навокал Зямлі, ці ён згарэў? Ніхто ня можа даць на гэта адказу.

Найбольш ведамым з савецкіх касьмічных пілётаў быў Пётр Долгаў. Ён меў савецкі рэкорд у паданьні з стратасфэры на парашуце. 3-га чэрвеня 1960 году ён дасягнуў новага сусьветнага рэкорду. Хрушчоў выбраў яго зрабіць 11 кастрычніка 1960 году палёт у сусьветную прастору. Два дні пазьней, 13 кастрычніка, Хрушчоў хацеў сам абвесьціць у Нью Ёрку перад Генэральнай Асамблеяй Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў, што першым чалавекам у космасе зьяўляецца савецкі грамадзянін. Пётр Долгаў меў коратка перад прамовай крамлёўскага шэфа перадаць пасланьне сябром АЗН. Гэта быў-бы найбольшы трыюмф Хрушчова. Але касьмічны карабель перадаваў свае сыгналы толькі на працягу паўгадзіны. Пасьля ён змоўк назаўсёды. Толькі пазьней сьвет даведаўся, чаму Хрушчоў быў такім злосным, што ў часе дэбатаў некалькі разоў біў сваім чаравікам па стале.

Крыху пазьней, 28 лістапада 1960 году, два браты — радыяаматары ў Турыне пачулі на савецкіх спадарожнікавых радыяхвалях 20 006 мэгагэрцаў сыгналы морза з касьмічнай прасторы. «СОС, СОС, СОС да ўсяго сьвету» — гучэла перадача. Гэтая перадача была чуваць а гадзіне 13,43, 14,05 і 15,00.

2-га лютага 1961 году, а 21,55 гадзіне, былі прынятыя на двух частотах перадачы савецкага спадарожніка. На аднэй хвалі падавалася месца знаходжаньня, а на другой былі чуваць адрыўкі словаў. 19 хвілін пазьней мікрафоны спадарожніка пачалі перадаваць цяжкае дыханьне чалавека, сэрца якога білася ўсё часьцей. Да гадзіны 22,30 гэтыя гукі ўсьцяж узмацняліся і раптам абарваліся. У Турыне дыханьне і біцьцё сэрца было запісанае на магнітафонную істужку. Ведамы спэцыяліст сэрца, прафэсар Догліёці, мог ясна ідэнтыфікаваць дзейнасьць сэрца і мамэнт ягонага разрыву. У Тэксасе прафэсар Шарп меў магчымасьць чуць гэты самы выпадак. Дарэмна чакалі вестак з Масквы. Іншыя навукоўцы таксама пацьвердзілі, што ў гэтую гадзіну ў касьмічнай прасторы памёр чалавек.

12 красавіка 1961 году падняўся з касмадрому маёр Гагарын. Ён праўдападобна быў адзіным, час старту і прызямленьня якога быў дакладна паведамлены. У Турыне, Бохуме, Джордэл Бэнк і Мэдон быў чуваць ягоны голас.

Крыху пазьней, 17 травеня, пачаўся новы касьмічны палёт. На працягу гэтага і сямі наступных дзён былі прыманыя два галасы — мужчынскі і жаночы. «Умовы — найлепшыя», — паведамляў мужчынскі голас. «Вышыня паводля пляну. Можам расшыфроўваць інструманты. Але сыгналы ня выразныя. Ня можам рабіць назіраньняў». Пасьля зьявіўся жаночы голас: «Я гэта змагу зрабіць і ўтрымаць правай рукой. Толькі так мы ўтрымаем адзінакавае палажэньне. Глянь з бычачага вока!» Крыху пазьней раздаўся крык мужчынскім голасам: «Што гэта, што гэта. Мы маем цяжкасьць. Калі мы ня высядзем, сьвет ніколі аб гэтым не даведаецца. Праграма паказвае: а восьмей гадзіне маскоўскага часу...» Сьвету зноў было баязьліва прамоўчана, чаму гэтыя дзьве асобы не вярнуліся з сусьветнай прасторы...

Тры касманаўты заплацілі прыгоды касьмічнага палёту сваім жыцьцём: Сэрэнці Шыборын у лютым 1959 году, Пётр Долгаў 11 кастрычіка 1960 году і Васікевіч Заводоскі 7 красавіка 1961 году. Імя жанчыны няведамае. Ня высьветлены таксама лёс іншых касманаўтаў, між імі Аляксея Белаконева і Генадзі Міхайлава.

Паводля вестак, сын ведамага савецкага канструктара самалётаў, Сяргей Ільюшын, пасьля няўдалага палёту ў пачатку красавіка 1961 году ляжыць яшчэ цяжка хворы ў адным з маскоўскіх шпіталёў.

„Арол заве вясну", — так адзываўся на чацьвертай савецкай касьмічнай хва-

(Заканчэньне на 4-ай бачыне)

# „Паглядзі сава, якая сама"

**(Заканчэньне з 2-ой бач.)**

**«Мы ўсе добра ведаем, як ставіўся да культу Янка Купала», — гаворыць цяпер Пятрусь Броўка. А мы можам яшчэ дадаць: і як ставіўся Янка Купала ня толькі да культу асобы, да самога Сталіна, але і да ўсёй савецкай сыстэмы.**

Абодва народныя паэты Янка Купала і Якуб Колас ніколі ня былі прыхільнікамі камунізму. Як і ўвесь наш народ іх прымусова ўцягнулі ў калгас і вымагалі ад іх здачы літаратурных нарыхтовак.

**Пятрусь Броўка гэта добра ведае. Дык навошта ён ставіць іх, як прыклад? Дзеля свайго апраўданьня? Дзеля таго, каб змыць зь сябе пляму сталінізму? Дарэмныя натугі!**

**Пакуль Броўка, Кучар і падобныя да іх ня прызнаюць свае віны і не пакажуць сябе ў сьвятле добрых чынаў, іхныя словы аб дэсталінізацыі зьяўляюцца пустазвоннымі, бязвартаснымі.**

**Сьцяпан Корбут**

---

«У 1960 г. было намечана ў Віцебскай вобласьці электрыфікаваць 55 калгасаў, на што было прызначана толькі 50 прац. коштаў пабудовы. Такім чынам немагчыма закончыць прадпрынятай дзейнасьці. Апрача недахопу грошай, немагчыма дастаць патрэбных матарыялаў для ўсяго прадбачанага пляну. Што датычыць паасобных пасёлкаў, то пытаньнем іх электрыфікацыі Дзяржплян БССР зусім не цікавіцца».

**Ф. Рома,** Баранавіцкая сельская выб. акруга.

«За апошнія два гады ў Баранавічах пабудавана мэтадам народнай ініцыятывы 280 кватэраў і 400 кватэраў прыватным спосабам. Дзяржава зусім аб гэтым ня руціцца. Калі-б для прыватнай ініцыятывы адпускаліся патрэбныя матарыялы, то было-б пабудавана больш дамоў. А так жыльлёвая праблема праводзіцца ў горадзе вельмі памалу.

«Прашу таксама зьвярнуць увагу на культурна-бытавыя патрэбы насельніцтва. Ужо даўно насьпела неабходнасьць пабудовы ў Баранавічах лазьні і мыльні хусьця. У нашым горадзе няма зусім хусьцямыльні, а існуючая лазьня на 70 месцаў ня ў сілах абслужыць насельніцтва.»

«Дом Культуры ў Баранавічах у немагчымым стане. Працоўныя гораду ўвесь час дамагаюцца лепшых умоваў культурнага адпачынку, аднак Міністэрства культуры БССР дасюль нічога не зрабіла.»

«Вельмі блага прадстаўляюцца ў нас лекарскія памешканьні й будынкі. Яны знаходзяцца ў 27 непрыгодных жылых дамох. Пры гэтым гэтыя мэдустановы абслугоўваюць ня толькі насельніцтва гораду, але й навакольных сельскіх раёнаў».

**М. Карабень,** Паставы, Менск. вобл.

«Ведама, што глебы калгасаў Пастаўскага раёну задзірванелыя й сырыя. Але Міністэрства сельскай гаспадаркі БССР не ўлічвае гэтага ды не дае ўстаноўкі на пакупку дысковых боранаў. Няма плугоў для палепшаньня сенажацяў і выганаў. За два гады мы не атрымалі ніводнай лёнацерніцы, ніводнага камбайна. Ды ў раёне няма зусім камбайнаў, якія маглі-б жаць збожа на загонах. Для пасеву кукурузы у нас ёсьць толькі 10 кукурузных саджалак, 10 сілозных машынаў і 9 культыватараў. Якжа можна выканаць кукурузны плян?»

«У Паставах жыве цяпер каля 12 тыс. людзей. У гэтым ліку 663 пэнсіянераў. Жыльлёвы фонд наш незвычайна малы. На кажнага жыхара ў камунальных дамох прыходзіцца менш за 4 кв. м. плошчы. Больш 300 заявак ляжыць у раённым комгасе на кватэры. 69 пэнсіянерам трэба даць кватэры зараз-жа. Пры гэтым некаторыя сем'і жывуць стулена да скрайнасьці. Да мяне штодзённа зьвяртаюцца мноства людзей з просьбамі дапамагчы атрымаць кватэры. Жыхары зьвяртаюцца з жалабамі ў абласныя, рэспубліканскія й саюзныя ўстановы. Іх заявы вяртаюцца да нас. Але раённыя арганізацыі за ўвесь 1959-60 год не пабудавалі ніводнага мэтра жыльля».

«У Паставах дзіцячы сад на 70 дзяцей знаходзіцца ў старым аварыйным будынку, заціснутым між ракой, раённым домам культуры і малачарняй. У гэтым садку знаходзіцца больш 100 дзетак. Цесната немагчымая, панадворка няма ніякага».

«Частка нашага насельніцтва ня можа атрымаць работы, бо такой не арганізуецца шляхам пабудовы ці пашырэньня прадпрыемстваў».

«Будаўляныя работы валакуцца страшэнна памалу. За тры гады выкарыстана ўсяго 49 прац. празначаных сяродкаў. За тры гады будаўнікі не змаглі паставіць страхі для майстэрні. Таму рамонт машынаў на нашай рамонтна-тэхнічнай станцыі праводзіцца на двары пад адкрытым небам, а зімой пры вогнішчы. Пакульшто не відаць канца, калі гэтая станцыя будзе збудаваная. Усё зь недахопу самых простых матарыялаў, як дрот, цьвякі, трубы і г. д. З такіх прычынаў спынена пабудова кінатэатру на 300 месцаў, давёўшы будынак да страхі.»

**А. Шаўраў,** (Наваградзкая выбарч. акруга).

«У нашых крамах запатрабаваньне насельніцтва ня можа быць заспакоена дзеля нястачы патрэбнага асартымэнту, патрэбнага росту, памераў, дрэннага пашыцьця'. «Атрымоўваны тавар, асабліва Гомельскай і Горадзенскай фабрыкаў гатовага адзеньня, не адпавядае вымогам насельніцтва. Часта матарыял вельмі нізкай якасьці, колеры страшныя і г. д. Лідзкая абутковая фабрыка выпускае абутак вельмі нізкай якасьці, так што людзі ня хочуць купляць. Тое сама датычыць мэблі. Рэчыцкі мэбельны камбінат робіць часта мэблю з сырога матарыялу».

**Т. Якаўляў,** Берасьцейская выб. акруга.

«На прыкладзе індывідуальнага будаўніцтва ў нашай акрузе відаць, што пры наяўнасьці будаўляных матарыялаў, праблема жыльля была-б хутчэй разьвязана. Так напр. у бягучым годзе пабудавана 54 дамы з жылой плошчай 3 337 кв. м. У наступным годзе плянуецца выбудаваць 145 індывідуальных дамоў з плошчай 4 350 кв. м. Але для гэтых мэтаў не адпускаецца будаўляны матарыял. Калі яшчэ сяк-так маецца з цэглай, каменем і вапнай, то такіх неабходных матарыялаў, як цымэнт, электраматарыялы, пакрыцьцё страхі, прылады й вырабы да печаў і г. д. дастаць вельмі цяжка.»

**А. Дарожкіна** горад Віцебск.

«Мне хацелася-б на гэтай сэсіі паставіць яшчэ адно вельмі важнае пытаньне, пытаньне аб жыльлі. Усім ведама, што ў Віцебску яшчэ мала будуецца жыльля, хоць горад быў моцна разбураны ў часе апошняй вайны. Дрэнна стаіць справа з жыльлём у нас на фабрыцы. Больш за 500 сем'яў зусім ня маюць жыльлёвай плошчы, жывуць пры чужых сем'ях, у фабрычных будынках. Многія сем'і патрабуюць новых кватэраў у выніку тварэньня новых сем'яў».

**В. Корж,** Ленін, Берасц. вобл.

«Хачу сказаць пару слоў аб тэмпах дарожнага будаўніцтва. Калі мы будзем так і надалей будаваць нашыя дарогі, то адной сямілеткі для гэтага будзе замала. Можа трэба падумаць і пачаць будаваць дарогі «народным» спосабам. Я ведаю, што цяпер многія калгасы самі будуюць дарогі. Мы таксама будуем. Але што-ж, дарогі то робяцца, але бязь цьвёрдага пакрыцьця яны хутка разрушаюцца.»

**А. Корняў,** Гомельская вобл.

«Многа гаворым пра культуру. А пры пабудове калгасамі дамоў культуры, клюбаў ёсьць вялізарныя цяжкасьці дастаць такія матарыялы, як сантэхніку, уладжаньні для аграваньня, для электрычнасьці, пакрыцьця, цымэнт, зялезныя матарыялы, як пруты, дрот, цьвякі, бэлькі, не гаворачы ўжо пра мэблю, як сталы, крэслы, шафы і г. д. У нас ёсьць раёны, у каторых наагул ня існуюць дамы культуры. Так напр. у Рэчыцы, вялікім населеным прамысловым пункце, існаваў дом культуры ў неадпаведным будынку, а цяпер зусім закрыты, бо будынак развальваецца. У Акцябрскім раёне дом культуры месьціцца ў малюсенькім доміку. У Мозыры ў аварыйным стане тэатральная сцэна. У Рагачэве, Кормянску, Дамановічах, Церахове, ду, два браты – радыяаматары ў Турыдамы культуры, але на гэтым і скончана, бо ў плян падрадных работаў гэтыя дамы культуры ня ўлучаны Міністэрствам культуры БССР. У Гомелі ўжо два гады будуецца спартовая заля з басэйнам, але канца не відаць.»

«А як школы?... Амаль палавіна ўсіх сямілетніх і сярэдніх школаў у нас ня мае майстэрняў, патрэбных для тэхнічнага навучаньня дзяцей. Больш тысячы школьнікаў зь недахопу школьных бу-

(Заканчэньне на 4-ай бачыне)

